ГЕНАДЗЬ
ПАШКОЎ

# ЛЮБЛЮ, СПАДЗЯЮСЯ, ЖЫВУ...



Лірыка

Мінск
«Мастацкая
літаратура»
1990

ББК 84Бел7
П22

Имя поэта известно по книгам «Кленовик», «Дистанция опасности», «Гравюры дорог», «Землю слушаю» и другим.

Стихам новой книги Геннадия Пашкова характерны активная гражданственность, яркая образность чистых и звонких строк, чувство живой сопричастности к родной земле, людям, острым противоречиям времени.

Тревожный голос поэта наполнен оптимизмом, верой в победу над злом.

П $\frac{4702120202-034}{М\ 302(03)-90}$ 55—90

ISBN 5-340-00469-4

© Выдавецтва «Мастацкая літаратура», 1990

* * *

На Мазырскіх узвышшах
старадаўнія ліпы,
а ў лугах заліўных
каля сумных ракіт
коціць шырака Прыпяць,
вечна юная Прыпяць,
салаўіную песню
і чысты блакіт.

Немагчыма стрымаць
смутку светлага ў сэрцы,
і гаруча сляза
на шчаку упадзе.
І жыццё
ў гэтым свеце,
як над хваляю вецер,
і вірыць,
і сплывае
па вечнай вадзе.

Твой імклівы чаўнок
у тумане растане
між ракітаў пітушыных
і выспелых траў,

але покуль жывеш —
не перастане
і патхняць, і трывожыць
загадкавы край.

У прастору дыхнуў
век
пязнанай атрутай.
Засцярожлівы боль
і надзея ў вачах.
А дубровы маўчаць,
ды густой мятай-рутай
даўка горкне туман,
як раней,
па начах.

Ты вазьмі мяне, Прыпяць,
загайдай чаратамі,
ахіпі лёгкім голлем
трывожных ракіт.
І хай кружыць вірамі
пад чаўном
і над намі
гэта сумная песня
і чысты блакіт.



* * *

Пра што шуміць лісцё над галавой?
Чаму ў зубрыным стогне столькі жалю?
Ступаеш ты,
і пырскаюць зарой
крамяныя брусніцы на выжарах.

Ступаеш ты,
і у вачах давер.
Ступаеш ты,
і ні хмурынкі злога —
хай чалавек,
хай дрэва
або звер —
да усяго,
што ёсць вакол,
зямнога.

Мы ўсе тут госці —
старац, і дзіця,
і нават лес,
і жар брусніц спакусны,
і кропляю салёнага жыцця
пячэ сляза
абветраныя вусны.

І не таму,
што ты часовы тут,
што і твой след,
як тысячаў,
растане,
а ад таго,
што Бацькаўшчыны кут
быць шчодрым на любоў не перастане.

## НА СВЕТЛЫМ СУМЕЖЖЫ

Ельніку стройная рацъ.
Строга на шапках яловых
смольныя шышкі гарацъ
водсветам стыла-ліловым.

Блудзіць узлескам туман
згадкаю светлаю лета
ці багуновы дурман
млее гаркава ў паветры?

Хочацца ў лес закрычаць,
каб усе птушкі пачулі,
ледзьве кранецца пляча
лапа яліны панурай.

Лёгкія, светлыя дні.
Перадасенняя свежасць.
Вунь і рабіна ў агні,
як паланёная вежа.

Ціха. І нават шпакі
з лесу на лог пазляталі,
толькі пчала ля шчакі
падае ў верас адталы.

Трапіш у срэбную ніць,
што на кустах
дзень навешаў,
штосьці ў табе зашчыміць,
быццам жыццё на сумежжы.

І што было і прайшло,
і што наперадзе будзе,
бусел над ціхім сялом,
круг замыкаючы, будзіць.

* * *

Не перапішаш лёс на чыставік,
праверыўшы
як след чарнавікамі.
Ідзеш жыццём,
як полем.
Чаравік
то ў яму трапіць,
то пабудзіць камень.

Усё,
усё,
што робіш,
што рабіў,
дзе хітраваў,
расплачваўся крывёю;
усё,
у што ты верыў,
што любіў
так безаглядна
дзіўнаю парою;
і тога,
знішчыць ты каго не даў,
у слёзную паверыўшы малітву,
і хто цябе у гразь пасля таптаў
з халоднаю усмешкай
езуіта —
не выкрасліш у злосці,
не сатрэш,
нідзе,
нішто,
ніколі
не схаваеш,
як, за сталом вылуджваючы верш,
радок каструбаваты адвяргаеш.

...Тут спатыкнуўся...
Там пайшоў па дно...
А тут пражыў —
аж сэрца замірае!
Мой лёс — мой чарнавік,
дзе ўсё відно,
дзе ўсё баліць,
шчыміць
і дакарае...



## ВЯСНА — 1986

### 1

Смагне душа
перамены вясновае.
Гэта ў ёй выспявала здаўна:
— Хочацца новага!
Хочацца новага!! —
плача,
        крычыць,
                патрабуе яна.

Ўся, як рака,
што у час ледаходу
крышыць масты
і, таранячы гаць,
раптам выносіць з-пад чорных калодаў
ахвяры,
якіх перасталі шукаць.

Хочацца новага!..
Лёдавы панцыр
схопіцца ўчэпіста за берагі.
Для паратунку шукаючы шанцаў,
на час спадзяваецца, пэўна, другі?

Хочацца новага!
Ветрам б'е колкім.
Крок замаруджвае шэры шурпак.
Толькі душа,
трапяткая на золку,
як на галіне развеснены шпак.

І перасмаглы ўвесь:
— Хочацца новага...—

шэпчаш пад рокат рачулак і рэк.—
Новага ветру!
Новага слова!
Новай надзеі табе,
Чалавек!

2

Зорны час —
калі народ гаворыць!
Праўды час —
як разумееш ты,
што ў кіпучым чалавечым моры
столькі рыфаў
рознай сваласты!

Паглядзіш на іншага:
ён — паінька!
Не прапойца і не хуліган.
Толькі дно яшчэ ён мае тайнае,
быццам кантрабандны чамадан.
Ну, а там
сам чорт зламаў бы рогі,
каб рабіў рэвізію у ім,
і урэшце гэтага нябогу
палічыў бы родзічам сваім.

Словы...
Словы...—
Грым на цёмных душах!
Што падлізу плесціся ў хвасце! —
Вунь як смела
ён угору рушыў,
і дакуль —
як ведаць? —
дарасце!

Колькі іх за рознымі дзвярыма
«служыць» сёння праведнаму дню!
Колькі там ружовенькага дыму!
Колькі там
задушана агню!..
Дутыя куміры...
Ілжэфакты...
Час відушчы,
праўду ў вочы рэж!
Хай з нас кожны адчувае,
як ты
і за што
змагаешся,
жывеш?

І у дні вялікага прадвесця
не шукай,
дзе ёсць мялейшы брод,
а ідзі туды,
дзе свежы вецер,
дзе агонь,
дзе праўда,
дзе народ!



## З РЭВАЛЮЦЫЯЙ НА ВУСНАХ

Не чытаецца літаратура.
І не вабіць інтрыгай кіно.
Б'юць газеты такою фактурай —
цяжка верыць,
што гэтак было...

Жылуновічы
і Чаянавы...
Як жа вас не маглі ўберагчы?!
Пэўна, смерць,
ад крыві дужа п'яная,
не па тых грукатала ўначы...

Невыносна!
Чытаеш — не верыцца.
Халадзеюць
і сэрца, і кроў:
— У расход! —
інквізітары-берыеўцы
адпраўляюць найлепшых сыноў.

І ў апошняй
прыглушанай камеры,
перасіліўшы крыўду і страх,
ціха падаюць,
акрываўленыя,
з рэвалюцыяй на губах.

Ні спагады не просяць,
не плачуць,
не пацешаць прызнаннямі слых.

Хто надхопіць той энт гарачы?
Дзе надзея апошняя іх?..

## КАНТРАБАНДЫСТЫ ДУХУ

Каб не крыкнуў час услед:
«Ату!»
і перачакаць пертурбацыі,
лозунгі мяняюць на ляту
бюракраты і прыстасаванцы.

Гэтак дружна,
быццам рыжы прус,
лезе,
вус нацэліўшы па ветры,
вёрткі і нахрапісты
хаўрус
да спажывы ласых прайдзісветаў,
што ў былыя,
сумныя часы
бурбалкамі гучнымі,
у пене,
заглушаў людскія галасы,
гасячы і веру, і натхненне,
і правамі,
людзі што далі,
вытраўляў і ганьбіў
дух здаровы,
а за славу
і за медалі
нішчыў рэкі
і крышыў дубровы;
што высокім: Партыя,
Народ,—
самы верны
і адданы быццам бы,—
прыкрываўся хітра
столькі год,
цешачы уласныя амбіцыі

і зямны смакуючы раёк —
нумары,
парыльні
і банкеты,—
па другі,
малавядомы,
бок
дужа бездакорнае анкеты.

Зноў,
у вочы пыхкаючы дым,
той хаўрус
у заўтра цягне скрытна
кантрабандай
паміж дном двайным
сытыя
былыя
апетыты!



## АПОСТАЛ АСТАЛОП

Як ваяўнічы Асталоп
на верхатуру ўзлезе,
тады шумі сабе, народ,
хоць колькі табе ўлезе.

Твой боль,
твой крык —
ну, што яму?
Упартае пароды,
сабе ён служыць
аднаму,
змагар за ўзнагароды.

І нам —
глядзець яшчэ,
глядзець
на ўсё,
як ёсць,
адкрыта —
дзе золата,
дзе проста медзь
пад золата
адліта.

Бо вунь жа
хітра памяняў
на лозунгах ён
словы.
А сам?..
Душою
не прыняў
павеў жывільна-новы.

І будзе новае душыць
ён

пальцамі жалезнымі,
бо звык
пад гэтым небам жыць,
жангліруючы жэзламі.

А ўся загадка
гэтых строф
разгадваецца проста:
герой —
не проста Асталоп,
а Асталоп-апостал.





Мяняюцца кадры,
мяняюцца лавы,
ды нешта марудна
мяняюцца справы?

Трашчаць міністэрствы,
канторы
і главкі.
Як на дражджах,
спеюць штаты і стаўкі.

І, пэўна ж,
не дзеля вясёлай пацехі
вакол надбудоўваюць
гмахам
паверхі.

Зайдзі
у кантору —
сумненне ільдзінай:
тут установа?
А мо дом радзільны?

Па кабінетах,
залежна ад звання,
гладкія дзядзькі
на захаванні.

Створкай двайною
ахоўваюць дзверы
тых парадзіхаў
казённай паперы.

Як жа
у час наш,

практычны надзіва,
гэтак нахлебнікаў
панапладзіла?! —
Час,
абцяжараны дзіўным парадкам,
моршчыць чало
над глабальнай
загадкай.





Важны чыноўны бамбіза —
само ўвасабленне явы! —
як на сяброўства візу,
падпісвае мне заяву.

Вяжа росчыркам чорным:
«Па магчымасці задаволіць!»
А гэта —
абстрактная форма
канкрэтнага слова —
«адмовіць!».

## ТЭРАРЫСТ ДУХУ

Паміж спагадлівых людзей,
у гушчыні народнай,
бывае, ўзыдзе ліхадзей
выявай іншароднай.

Мо з тых вякоў,
калі набег
рабіла злое племя,
якісьці дзікі печанег
атрос ліхое семя?

Віруе звада,
ці праклён
грыміць у ярай злосці —
не сумнявайся —
гэта ён
чыесьці трушчыць косці.

— Сумленны я! —
у грудзі б'е.—
А вокал — ліхадзеі!
Той — экстрэміст!
А гэты — п'е!
І толькі я надзейны!!! —
так дамарошчаны васал
ідзе у наступ з боем:
— Мяне падтрымлівае сам...
А ведаеце, хто ён?!.

Як ёсць надзейная рука,
то знойдуцца і факты,
узнагародзіць спадцішка
працаўніка
інфарктам! —

драпежна песціцца ў душы
п`яны крывёю
верад —
дзеля сябе
усіх крышы,
і па касцях —
наперад!

...І вось — на пенсіі.
Быў звер.
Бяскрыўдным стаў,
як муха.
...Што робіцца ў душы цяпер
у тэрарыста духу?..



## НЕ ПАГУБІ МАЮ ДУШУ...

Хмурынаў вывадак бухматы
над парнай пушчаю брыдзе.
Пад гром куляюцца
андатры —
рачныя дзеці —
у вадзе.

Гром помнячы з паходаў шведскіх,
дубоў пабітыя кражы
п'юць прагна ў пушчы Івянецкай
на крутаводары дажджы.

А тыдзень ліць не перастане,
ды не улягуцца вятры,
расяны скрыпнік
на паляне
распаліць сінія кастры.

Ідзі — глядзі!
Там галубіцы
багун абсыпалі вакол.
Каштуй краплістыя суніцы,
што сокам пырскаюць на дол.

А пакаштуеш,
да балотца
з вудой няхітрай уцячы,
у камарыным гуле
сонца
пад вольхай чорнай падсячы.

Цвітуць зязюлькі,
медуніцы
у буйным летнім харастве,

і светламузыка бруіцца
на перакатах
па жарстве.

Няма тых слоў,
якімі можна
усё,
што вокал,
перадаць.
Няма тых фарбаў асцярожных,
каб вечнасць дню падараваць.

Але вярэдзіць неспатольна,
і я адзінага прашу:
не зікні, свет мой навакольны!
Не пагубі маю душу...





З безнадзейным прысудам —
«На дровы!» —
за чыесьці сляпыя грахі
так прыкметна радзеюць дубровы,
агаляючы ўшчэнт берагі.

Пад надрывісты віск
бензапілы,
заглушаючы град жалудоў,
упіваюцца ў смяглыя жылы,
і сухая фантаніцца кроў.

Вінаватая ўсё ж не маланка,
што пякла на ляту жалуды.
Тут зрабіла сваё
ліхаманка
асушэння зямлі ад вады.

Мы вялікага столькі знішчалі,
пласт жыццёвы які ні крані!
Мы пра заўтрашні дзень
мала дбалі,
больш — пра прэміі і ардэны.

І, аматары поспехаў лёгкіх,
матэрыяльны узважвалі куш,
і крылялі ў аблоках,
пакольκі
нам грымеў, праслаўляючы, туш.
І цяпер,
за усё, што мы маем
і што крыху пасля будзем мець,
не адкупіць ніякая тая
у наш гонар зіхоткая медзь.



Каб столькі гадоў,
ды без бою! —
Не ўспомніць ніхто.
Але час
аграхімічную зброю
у наступ пускае на нас.

На роднай зямельцы ніколі
не біў гэтак звон вечавы:
у садзе ламаецца голле —
там яблыкі, што качаны!..

— Бурак гэта, бульба ці морква —
навысілі масу шматкрат,—
дакладвае дзядзька з уборкі,—
чаго там шумяць на нітрат?!

А хай бы сказаў гэты дзядзька,
кармілец разважлівы наш,
як цэліць ударыць знянацку
на сэрцах
пладоў яго фальш.

Пра тую атруту —
ні слова!
Ён будзе маўчаць незнарок:
яна —
і ўраджай шматпудовы,
і прэмія,
і ардапок.
Ці ж гэтак сурова карае,
ахвяраў шукаючы, час? —
Мы ўласных дзяцей забіваем!
Крывавыя рукі у нас!..

* * *

Сняцца ноччу мне гэткія сны:
я прыкуты,
нявольнік прагрэсу,
ланцугом залатой баразны
да балота,
да рэчкі,
да лесу.

Толькі кругам ідзе галава
ад нячутых праяў
і дзівосаў.
Праз мяне прарасла мурава
пазасыпаных цэзіем
вёсак.

Спавівае і чад, і свінец,
паліваюць кіслотныя ліўні.
Гэта я тут
адзіны тварэц,
і ўладар,
і губіцель адзіны.

Смажыць вусны гаркава сухмень,
нібы штось незваротнае страчана.
Можа, гэта
знішчальны прамень
мне душу прашывае нябачна?

Што магу я,
нявольнік-вясляр,
хто маліўся не раз перамозе
ды кашулю ў адчаі пасля
раздзіраў на грудзях
у знямозе?..

І я чуў,
як часінаю той
шар зямны,
перасіліўшы млоснасць,
вырываўся з арбіты крутой
і ўразаўся
у выстылы космас.

Ды куды ад сябе уцячэш,
ад арбіты,
ад мукаў,
ад грому?
У прасторы
без краю і меж
не пашчасціла гэтак нікому.



## СОНЦА І СТРОНЦЫЙ

Свет уяўляўся
чысцюткім бясконца.
...Пушча.
Ды чорная хмарка былля...
І рыфмаваў я:
«сонца» і «стронцый».
Божа!
Якім жа дурнем быў я!..

Гэткаю рыфмай,
як позваю часу,
вершык вылуджваў:
— Трымай НТР!
Як прыгадаю я
тую акрасу,
вусцішна робіцца раптам
цяпер.

Свеціць з-за хмары
адвечнае сонца.
Толькі самотная песня —
як плач.
Можа,
той самы
нябачаны стронцый
ногі табе спавівае,
рыфмач?..

## ПАЛЕШУКІ

Пясок. Гаркавы чарнабыл.
І неба — месяц,
што жароўня!
А над дарогай,
жоўты пыл
узняўшы ўгору,
вецер стогне.

Гарбее чорны журавель.
А студня —
глянь! —
запакавана
ўся
у выцвілую бель,
сібыта ў саван
цэлафана.

Вяскоўцы тоўпяцца ля хат.
І ў кожнага
на твары строгім
маркотны цепліцца пагляд
балючым зарывам
трывогі.

У вёску —
госці ўсё часцей.
Хоць скасаваны пачастунак,
спытае нехта у гасцей:
— Ці праўда,
горкая — ратунак?..
А што — ні кроплі малака —
без малака якая ж страва?! —
Няўцям сівым палешукам
такая дзіўная праява.

— Чаму не чуе цела,—
так,
бывае, дзядзька маракуе,—
якойсь пылінкі шэрай як
цябе наскрозь
прамень свідруе...

Спасцігнута нямала слоў,
ды ўсё сумненне дакарае:
якім сцяблом
узыдзе зло
на перасмяглым полі
краю?

...Не роспач
з мудрае вачэй,
што болю зведалі нямала,—
любоў глыбінная ярчэй
зямлю пяшчотай атуляла.



## ЖАНЧЫНЫ

Як мятаю поле засеялі,
на ўзмежку,
дзе вербы растуць,
жанчыны стамлёна паселі,
няспешнае слова вядуць.

А клопат жаночы вядомы.
Гамонка паціху цячэ
аб дзецях радзімых,
аб доме,
пра тое
пра сёе яшчэ.

І, мусіць,
зусім не без рацыі —
каб ведаць на выгляд і смак! —
пра,
ліха яе,
радыяцыю,
што сее сумненні і страх.

І тая,
што ўся ў рабацінках
і ў пальцах сціскае асот,
зняла з галавы
касынку,
ад сонца хавае жывот.

Хмурынка на тварах прыгожых.
Журботная сінь у вачах.
І груз непамерны
у кожнай
улёгся на кволых плячах,
бо сумная веку трывога

атрутнай гаркотай сцябла —
рукою падаць —
ля парога
ў надпрыпяцкай вёсцы ўзышла.

Жанчыны пакутнай зямелькі —
не бачыць бы гэта,
                                        не чуць! —
цяжар непамерны
адвеку,
нібыта рабыні,
нясуць.



## СТРАХ

У лагеры
дзеці з Нароўлі,
што сілы павінны набраць,
суніцаў
пунсовыя кроплі
баяцца па лесе збіраць.

А мучыць не засцярога
ад ёдавых
рыжых дажджоў.
Палохае сэрца малое
машына з чырвоным крыжом.

І купіна гэта
глухая —
нібыта ў краплінах крыві,
што з пальцаў малых
выціскаюць
так часта цяпер дактары.

## КАМЕННАЯ ВАЛОШКА

Над бухтай
у Крыме
пажухлыя травы
сплываюць у дыме,
што з кратэра
лава
па схілах
уніз,
дзе прыбой ля падножжа.
Нібы альпініст,
ля аблок
асцярожна
бліскучы каменьчык,
што нёс я ад мора,
паклаў на вятрысты
магільны пагорак,
як некалі
некім
заведзена.
Тут
паэт пахаваны,
і прышлы ўвесь люд,
што едзе да сонца і мора
улетку,
нясе камяні на курган,
нібы кветкі.
Між донных каменняў
на горнай вяршыні
убачыў пляскачык я
з надпісам дзіўным:
«З Хойнікаў дзеці,—
някло даланю,—
да мора прыехалі
упершыню.

Лета канчаецца.
Заўтра дзень ростані.
Жнівень.
Восемдзесят шосты».





Пабудзіць світальная птушка.
І ранішні морак,
ды сон
калматая лапа разгушкае,
закіне ў ружовы азон.

Паўдня пад праменнем сушы́цца,
чарніцы агнём спелячы́,
зямельцы
пасля навальніцы,
што так бушавала ўначы.

Скрозь
гордай паставай
ялінаў
зялёныя дрэмлюць крамлі.
Іх шышкі ўрачыстым рубінам
ірдзеюць у верхнім галлі.

Туды,
дзе абрывы крутыя,
таемную радасць нясу.
Вакол
хабаткі залатыя
высмоктваюць з лісця расу.

— Гэй, бусел! —
крычу,
і выходзіць
з-за вольхаў
на дымны папар,
услаўлены ў нашым народзе,
цыбаты,
паважны гусар.

А вокал —
разводдзе ад пахаў
гарачага сена ў стагах.
Няма ад салодкага страху
упэўненасці
у нагах.

Павалішся ў краскі,
і дзіва:
ты чуеш
з падвялай травы,
як сокі зямелькі радзімай
кіпяць забуяла ў крыві.



## МАЦЯРЫК

Вачамі далеч не абняць,
а ў сінізне крутой,
настылай
на прамянях тугіх вісяць
з'інелыя
бусловы крылы.

Разложысты
над пушчай
гром
вяшчун крылаты як не чуе.
...Усё часцей сню родны дом.
Напэўна, там душа вякуе?

Каменне,
яма,
мурагі,
абняўшы,
склеп дзе быў,
пагорак,—
не падпускаючы плугі,
вартуюць —
дзякуй ім! —
падворак.

Там — вешчы ясень,
там яшчэ
рабіны ў барвах палыхаюць
і светлы сум
усё ярчэй
сузор'ем спелым азараюць.

І шолахі,
і гамана,

і горб далёкай валатоўкі,
і сніцца, пэўна, недарма
цяпло пяхітрае ватоўкі.

І боль,
і радасць — гэты крык:
— Будзь вечнаю, зямля святая!..
Падворак матчын —
мацярык
лісцём
ласкава абдымае.



## КЕДРЫ НАД ПРЫПЯЦЦЮ

*Анатолю Клышку*

Скажаш, напэўна:
— З арбіты ён вылецеў!
Ці:
— Захлусіўся паэт-балабол...
«Кедры над Прыпяццю!..»
Кедры над Прыпяццю
шышкамі грукаюць
цяжка
у дол.

Глянеш уверх,
ажно шапка злятае!
Сінюю хмару
злавіўшы ўгары,
волатны ствол,
што сабор,
узлятае
змрочнай латунню
шурпатай кары.

Вокал ля кедра
малеча таўчэцца.
Дзе тут свавола,
а дзе камары?..
Смольная шышка
ля ног разаб'ецца,
шапку — аб дол!
Ды арэхі бяры.

Выберы шышку і ты
адмысловую,
ёю пасля

хоць каго агарош —
як і адкуль
на зямлю Талашовую
дзеці таежныя
трапілі ўсё ж?!.

— Што за зямля
у нас —
дзіва на дзіве?! —
рукі разводзіў і сам ты
не раз.
Што за гісторыя тут пахадзіла,
столькі загадак
данёсшы да нас?..



## ПАМЯЦЬ

Скажы: «Беларусь»,
і калінавай гронкай,
што спелай зарой занялася ў лясах,
ад ціхай любві
да радзімай старонкі
ты сілай зямной напаўняешся сам.

І госць,
што прыехаў з далёкага краю
на «кінуты богам» куток паглядзець,
падзівіцца моўчкі
з таго, што мы маем,
як можам «паўкалваць»
і «пагудзець».

Наіўнай прыязнасцю ўсмешка іскрыцца,
і рукі — насустрач!
...Хіба толькі госць?!
Ты сам пачынаеш услых ганарыцца
і тым, што было
і што ёсць.

Каб гэтак і сорам пранізваў таксама!..
Ад нізкай свядомасці,
як ні кажы,—
збуцвелыя клубы,
а ў колішніх храмах —
асіплыя бары
або гаражы.

Было —
багамаз размалёўваў сцены.
Няхай жа не кленчыць
ягоным багам,

хіба мы не знойдзем
ва ўсіх пакаленнях,
каго ўвекавечыць пашанаю нам?

Тут кожны палац
тае памяці варты.
Хай рэхам нагадвае
прадзедаў час!
А мы скарб народа
ўсё топчам упарта.
Адкуль жа драпежнасць
духоўная ў нас?!
Узяць —
зруйнаваць,
перакрэсліць,
запляміць,
рыторыкай гучнай
парыў акрыліць.
Ці маем надзіва кароткую памяць,
што ранай скразною
яна не баліць?..





Жыве між нас
ад продкаў русых,
самаададана служыць дню
густая мова беларусаў,
багатая на дабрыню.
Мой рускі брат,
латыш
і ненец,
на мовах розных што пяюць,
яны маю таксама цэняць
і раўнапраўнай прызнаюць.

А ты,
ступаючы на ляда,
дзе столькі ветраў выла злых,
чаму паморшчыўся пагардна
ад слова
прадзедаў сваіх,
ад слова тога,
што ніколі
не заглушылі крумкачы
і на славянскім
вешчым полі
вастрыла косы і мячы;
ад слова,
што гаіла раны
спагаднай шчодрасцю
без лек,
і —
што шаптала закаханым,
іх сэрцы лучачы
навек;
што расхінала далягляды,
святлом крынічыла ў цішы?

...Адкуль?
Адкуль яна,
пагарда,
у гэтай выстылай душы?

Я не за тое,
каб народы
брылі па вузкай каляі.
А я за тое,
каб заўсёды —
які б там час,
якія б моды! —
быць верным роднае зямлі
і жыць яе суровай доляй,
сумленнай лустай на стале,
радзімым небам,
жытнім полем
і, пэўна ж,—
з песняю яе.



## СКАЛАЛАЗ

Ледзь расступіўся бор,
і на пагорак выплыў,
азяблы ўвесь,
сабор
паміж дуплястых ліпаў.

Вітаючы багоў,
гурмой манашай пела
з-пад купалаў яго
вароняя капэла.

Да звонаў
па сцяне
чарнелі,
быццам свечкі,
напэўна,
на вайне
набытыя
засечкі.

Ды кажуць:
«Альпініст,
перш чым падацца ў горы,
не маючы гары,
браў вопыт на саборы».

Мацуючы круччо,
пагляд закідваў высака.
І цэгла
на плячо
крывёй рудою пырскала.
А потым
з вышыні
птушынага палёту

глядзеў з-пад далані
на блізкае балота.

Свяцілася ўваччу —
усё-такі падзея!
...Ён так і не адчуў
душы сваёй
падзення.





На градах — макаўкі,
як цэрквы.
Здаецца,
грымнуць купалы
і, каб пазбегчы
жахаў пекла,
пераждагнаецца стары.

...І памаліўся хтосьь,
ды толькі
не пекла жах узвёў у зман.
Няма больш макавак,
паколькі
тут кленчыў ноччу
наркаман.

## У БРАСЛАЎСКІМ ЗАЦІШКУ

Зліліся ў дымцы
Браслаў і азёры,
з гаёвай выспы бачыцца —
як ёсць! —
скрозь лёгкі шум бярозаў белакорых
няхітрая
Радзімы прыгажосць.

Пясчаныя,
хваёвыя,
калінавыя,
у аксаміце голля і травы —
куды ні глянь —
дзяржавамі птушынымі
калышуцца на хвалях астравы.

І ўсё вакола
спеласцю прапахла.
І у траву павалішся ты ніц,
і, радасны,
адным глытаеш махам
азораную прыгаршчу суніц.

Пад ветравеем лёгкім —
у паглядзе
глыбее сінь ад неба і вады.
Прасмоленым чаўном на даляглядзе
спускае хмара
ліўняў невады.

Сыдзі з гары.
Дзе цэдзіць бор жывіцу,
сустрэнь ручай,
чырвоны ад руды,

і ўверх пайдзі —
сцюдзёная крыніца
падасць жывой
у слоіку
вады.

І тут жа,
побач,
дзікае ігрышча
цябе асляпіць —
пад шатром лясным
наколешся
на чорны след кастрышча,
на спалены мурашнік ля сасны.

І тут,
дзе дух бароў азёрных
смолкі,—
ажно мурашкі пойдуць па спіне! —
нібыта хтось
бутэлечным асколкам,
асляплены,
пад сэрца садане.

І ўсе твае
узнёсласць,
сантыменты
ці вартыя мядзянага граша
або дыхання гораснага ветру
і нават гэтай сцежкі мураша?

## ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА

*Кастусю Цвірку*

Старыя Дарогі.
З-над шатаў турок
пратуркае глуха замову,
ледзь толькі паверне гасцінец
у бок
да вёскі
Зялёнай Дубровы.

Здалёку,
з-за голля,
маўкліва глядзяць
маёваю сінню акенцы.
Выходзіць чаромха за вёску страчаць
у воблачна-хмельнай сукенцы.

А там і салоўка,
салодкі,
як грэх!
І толькі адно
маладзіцы
вякуюць,
з вайны дажываючы век,
ля сумнай Скачальскай вадзіцы.

А ты,
разагрэты,
у возера скоч —
працяты да кожнае жылкі,
успомніш,
любімае мамкі апроч,
і вершы
дубровенца-Цвіркі!

Ашпарыўшы ногі,
не чуючы рук,
згадаецца казка былая:
яно-то і праўда,
што тут паляшук
агонь да вадзіцы мяшае.

Старыя Дарогі.
Дарог
родны край,
задумлівы,
шчыры,
вясновы,
як гэты чысцюткі
пралескавы май
у вокнах
Зялёнай Дубровы!





Пятлянка-рака
вяжа сена
у лузе.
І вечарам водар,
як мёд хто разліў.
А трактар,
пад вербамі ўгразшы
да пуза,
штодзённую норму
усё ж заваліў.

Увесь ускудлачаны,
зёлкі у чубе,
як вылез з карчоў
маладзенькі вядзьмак,—
прыціх трактарыст
пад ляшчынаю
з вудай,
і дзікае шчаўе, галоднаму, ўсмак.

Пярынка кранецца —
на лёсцы павісне
пляскач залаты,
а шырокі,
як блін,
нібы суцяшае
крынічная Іслач
балотнымі дзецьмі
з малых азярын.



Трушчыць Пярун
над ракой
у бары
на мокрым каменні
ляшчынаў дары.

Воддаль ад соснаў,
дзе гул калатнечы,
дрыжым у стажку,
дождж прыняўшы
на плечы.

Зёлкі падвялыя
хмеляць галовы.
...Намі пражыта
жыцця
ля паловы.

І ў вачах тваіх
цёмна-маўклівых
вопыт жанчыны
з дзяўчынкі наівам.

Цела ад цела
агнём занялося.
Канула ў цемру ўсё,
ці здалося?..

Мы не анёлы,
не грахаводы.
Проста скруціў нас
віхор непагоды.

## НАЧНАЯ АКВАРЭЛЬ

Дзялі хоць на лусты
часінаю жніўнай
у соннай ваколіцы
дух аржаны,
дзе ў чорнай начы
над стамлёнаю нівай
ля млына старога
снуюць кажаны.

Нібыта млынар,
ад мукі увесь белы,
ад застаўкі месяц убок папрастаў,
у змроку вільготным
пакінуўшы бераг,
ідзе чаратамі ў задымлены стаў.

Над блізкаю трасай
сляпучыя фары
наскрозь прабіваюць
бензінавы чад.
А сціхне,
ручай у пунсовым пажары
чуваць
як блукае
ля кінутых хат.

На вольхах азяблых,
куп'і ды паленні,
здаецца,
званочкі звіняць уначы,
дзе стронга ў завоіне,
чорнай ад цемені,
іскры красаючы,
паліць карчы.



А ці ёсць хоць што на свеце лепшае,
як зямельку слухаючы,
пешшу
вандраваць
то сцежкай палявою,
то паміж калінаў
лугавою,
што мядзвянай душнаю лукой
узвядзе на кручу над ракой,
дзе у арахоўнае цішы
наліваюць ядры спарышы;

і пачуць —
не, нават не салоўку,—
хай сабе гарластая кароўка
прамычыць
і кінецца праз лом,
спуджаная,
з п'яным малаком;

і пабачыць,
як туман пад вечар
закіпае на змяркальных свечах,
а ў чорных
густалістых спратах
засынаюць стомленыя хаты,
толькі за аддаленым гумном
соладка ўсплыве над летнім сном
нечы смех,
як пошчак салаўіны
(нехта ж зоры пільнаваць павінны!);
і зямелькай,
роднаю да болю,
дыхаць,

як апошні раз
уволю
над крынічай звонкай
пад алешынай,—
хіба ёсць хоць што на свеце лепшае?!.



## РЭЧКА КНЯГІНЬКА

Ці сініца ў вербах цінькае,
ці пад грэбляю рудой
у каменьчыках
Княгінька
зорнай пырскае вадой.

Ад якой пары пятляе?
Ці не выжыла таму,
што размах не вельмі мае
ля самой сталіцы БМУ?

Не да лапіку зямлі той,
як з высокіх каміноў
наваколле апавіта
шызым марывам дымоў.

Быццам князе Усяславіч
і яго дружына-раць,
закалыханыя травамі,
каля вогнішчаў ляжаць.

Толькі вежа
белай паваю
не памеркла
                у вяках,—
як славянка Гарыслава
з юным сынам
                на руках.

І легенды,
і паданні
проста лезуць з муравы.
Векапомнае кургане...
Старажытныя муры...

Ты ступаеш
і баішся.
Адчуваеш —
кожны крок
надымае цябе ў высі.
Далеч — кругам!
А убок
як саступіш,
то сарвешся.
Згубіш памяць —
                    і канец!
Ты, гісторыя,—
і песня,
ты і плач наш,
і мудрэц!

Нам бы вечна
сеяць жыта
і такім агнём гарэць,
дзе і тое,
            што пражыта,
і — што заўтра
                    будзем мець.

І Княгінька
ля Заслаўя
з-пад бялесых туманоў
хай душы апавядае
думу вешчых курганоў.

## БРАТ І СЯСТРА

Ірву агонь каліны.
З болем
гляджу,
як лісцік закружыў
і, ўпершыню хапіўшы волі,
упаў пад чорныя крыжы.

Не помню я
сястры і брата,
бо на пажарышчах вайны
ахвярамі якогасьць ката
ляглі,
        бязвінныя,
                        яны.

Чужыя людзі пахавалі
пад грукат бою,
як маглі,
але слядоў не адшукалі,
бо самі потым паляглі.

Стаю паміж калін пахілых
у ціхай засені сырой
і бачу:
даўнія магілы
вакол зраўняліся з зямлёй.

А дзе браты тут,
а дзе сёстры,
цяпер хто можа падказаць?..
Слязой гаручай,
болем вострым
каго,
каго мне дакараць?..

Над брат-сястрою
задзічэлай,
што абвіла вакол
пясок,
душой чыёйсьці
анямелай
мільгае позні матылёк.

Зямля.
Зямелька Беларусі,
да смяглай былкі
ледзьве я
рукой дрыготкай дакрануся
ці, слухаючы салаўя,
што ў час чаромхавай паводкі
трасе бялесую расу,—
тут нервам кожным чую
горкі
твой боль у сэрцы
скрозь слязу,
як гэты жар каліны спелай,
як вецер з выстуджаных вёрст,
як з матылёчкам,
утравелы,
дзе брат з сястрой ляжаць,
пагост.



Зноў зямельцы дакукі стае:
свішча шпак
і паводка віруе.
Як паверыць цяпер,
што яе
прагна
атамны шашаль
свідруе?

І я сёння
у жудасным сне
прахапіўся
з мальбою няўцямнай.
Гэтай ноччу
прыснілася мне,
быццам тыя,
што леглі пластамі
пад нагамі дрымучых лясоў,
у цяжкіх і нямых
сутарэннях,
лучаць рукі
праз жоўты пясок,
праз балотную твань
і карэнне,
каб Зямельку,
што глуха трашчыць,
прасядае,
дрыжыць пад касцямі,
ад пагібелі
уберагчы —
арматураю робяцца самі.

## НОЧ 22 ЧЭРВЕНЯ

Бліскавіца пранізвае сон.
За сцяной нарастае лавіна.
Разлятаецца з трэскам акно
пад напорам пунсовай дыміны.

Можа, вырваўшыся на папас,
дзікі вецер
капыціць па даху?
Можа, век,
напаследак,
і нас,
неабстрэленых,
кліча на плаху?..



Як рыцарства працяг,—
пабліскваюць металам
кашуля
на грудзях,
а на вачах —
забрала.

Матацыклетны роў
над месячнаю сцежкай.
Сухі жаргончык слоў
ды бляклыя усмешкі.

Які жыцця парыў
надзеў на грудзі латы?
Каб век,
на пораў злы,
вятрамі душ не кратаў?

Ці рыцарства тады?
Бо рыцары
што моцы
даказвалі заўжды
дух рыцарскі
у бойцы...
Які асіліць страх —
пабліскваюць металам
кальчуга на грудзях,
а на вачах —
забрала?..



Спасцігаў я ісціну пакрыху,
жорсткае глытаючы асцё:
дораць мудрасць светлую нам
кнігі,
калі ў іх —
не казкі,
            а жыццё.

А я ў тым жыцці
не раз быў смешным
перад хіжай хітрасцю
                              і злом,
хоць аб адукацыі вышэйшай
сведчыў мой,
                    з пяцёркамі,
дыплом.

І, душой не раз пазнаўшы
страту,
сам дзівіўся:
не на гэткі свет
адкрывала вочы
alma mater —
гэта значыць —
універсітэт.

За навуку
вам,
      душэўным,
дзякую,
мудрыя прафесары мае.
Выйшаў я
якімсьці пратадзяканам.
Нешта вы ўтаілі ад мяне?

Я дыплому ўрэшце
справіў трызну,
як адчуў,
што ў гэтым свеце я
знаўца
ў папяровым рэалізме
і прафан
у рэалізме дня.



## ВЫЗВАЛЕННЕ

Што за д'ябал?
Што за ліха?
Што за гнёт чыгунны гне
і нашэптвае: «Ціха»,
узбунтуюся ледзь,
мне?

— Гэй ты!
Хто там пасяліўся
з ціхай місіяй бажка?
Адгукніся!
Адзавіся!
А то ўсё каб —
спадцішка! —
Зноў пра тое ж?
Не, брат,
ціха
жыць і слухаць
годзе!
Пас!
— З гэткіх праведнікаў
пыху
выпускалі,
і не раз!

— Чалавеку жыць адкрыта,
паяднаўшы дух і плоць...
Ты задумаўся нібыта?..
Не маўчы.
Пара.
Выходзь!..
— Донкіхоты!..
— У народзе
разумеюць нас.

— Ані!
Сёння практыкі у модзе.
Рэалісты на кані.

— Не круці!
Выходзь!
Адкрыйся!
А то, бачыш, дэмагог!
— Памаўчы
і павініся.
Хто цябе не раз бярог?!
Каб не я — то...
— Не, брат!
Годзе!
Надакучлівы твой сказ...

— Ну, бывай.
А пры нагодзе,
ой, пакаешся
не раз!..

Ад палёгкі —
неба кругам!
Ды, спаўзаючы з мяне,
крывянеецца кальчуга
рабскай скурай
на траве.

## ДЗЕ ПРАРОКІ?

Мо у паэзіі
сілы замала —
дружна палезлі
паэты
на лавы.

Сяцца, занятым,
не рыфмы,
не рытмы.
З болем зацятым
душэўныя ўсхліпы:
— Той, нібы крот.
— Ну, а гэты па блату,
маючы ход
у высокую хату.
Там,
з уплывовых
займеўшы кагосьці,
падлізлівым словам
заманьвае ў госці.

— Таго — да эліты!
— А гэтага ўбок!
...Сэрца,
нібыта
маланкі клубок.

Штурмам — у штат!
І таму
недарма
геніяў шмат,
а прарокаў
няма!

* * *

Шчаслівы птах прывечвае вясну,
спявае ад світанку
і да поўні.
Ён славіць сад вясновы,
баразну,
ну і, само сабой,
сваю шпакоўню.

А што такое сталася між нас:
нібы ў душы паплеснелі ўсе скарбы,—
мінулы
перакрэсліваем
час
і без разбору
мажам чорнай фарбай?..



З-пад абрывістай кручы
баркас
скалане цішу басам кароткім,
і Палессе журботнае нас
ахінае дрымотай салодкай.

І святло, нібы снег на палі,
апускаюць з'інелыя зоры.
І гарчэе на вуснах тваіх
прахалода бяроз белакорых.

Ападае ласкавым лісцём
заірдзелае зарыва лета.
Пэўна, гэтак і наша жыццё
ціха кружыць у далечы светлай.

Лёгкім ветрам падхопіць яго
і затуліць загадкавай ноччу.
Але хіба у нас ад таго
сінім смуткам напоўнены вочы?

Нам любіць,
нават скруха калі
абвалоквае шэраю золлю,
бо народжаныя
ад Любві,
ад Агню,
ад Надзеі,
ад Болю.

І нікольні не страшна
заснуць,
калі прыйдзе часіна такая,—
толькі б вечна карэннямі чуць,
як світаннем зямля ажывае.



Кожнае пакаленне —
у россыпе
кветак і слоў
па зорнай мяжы сталення
мае сваю любоў.

Кожнае пакаленне —
летапіс разгарну —
вусцішнага наймення
мае сваю вайну.

Кожнае пакаленне,
узважваючы гады,
з памяці і раздражнення
мае свае халады.

Кожнае пакаленне
аднолькава,
як усе,
быццам лісце асенняе
ветрам паразнясе.



Сіла жыццёвая —
вера і рух —
нам на вякі нарадзіла
словы святыя,
што ўзвысілі дух,—
Партыя,
Ленін,
Радзіма.

Справам вялікім —
разгон і прасцяг! —
чую, акрылены,
зноў я.
Сёння рашуча карчуем з жыцця
мшэлае
хіжае
пнёўе.

Нас ні мароз, ні свінец
не злякаў,
не для таго шлях абралі,
каб,
дзе працоўная трэба рука,
балбатуны
балбаталі.

Мы на прасцягах вятрыстых,
і там —
даказваць працай адзіна
нашую вернасць сыноўнюю Вам,
Партыя,
Ленін,
Радзіма.

## УЛАСНАЕ ІМЯ

А ты ўсё-такі
                    эгацэнтрыст,
бо задумы твае чалавечыя —
гасне дзень
ці зрываецца ліст —
скіраваныя марай
у вечнае.

Ты, наіўны прыроды дзівак,
што,
      як ліст на марозе,
                                згараеш,
ціха верыш:
не проста так
ты імя
чалавечае
маеш.

Але, пэўна,—
                    узважваеш час,—
калі гне да зямлі небяспека,
гэта ціхая годнасць якраз
уздымае ў табе
Чалавека...

## НАТАШКА

Дзе высахла рака —
на стыку двух стагоддзяў
з кійкамі у руках
з дачкой між вербаў ходзім.

Паволі лёгкі снег
з галінаў церусіцца,
і чысты юны смех,
што ранак, прамяніцца.

Ідзём на стыку дзён
завеі і цвіцення,
у бездараж ідзём
па зорным зіхаценні.

А побач
горад лёг:
траншэі,
краны,
пліты.
Трапечацца ля ног
ручай, жыццём пабіты.

Прадвесне пад нагой
вырывае пагрозу
яшчэ густых снягоў,
яшчэ крутых марозаў.

Было, насіў —
як сон! —
малую непаседу.
...У сінім небе
звон
малюе нешта крэйдай.

І час,
як гэты гук,
пяўлоўліва-імкліва
Ужо якісь хлапчук
цікуе сарамліва.

Падыме каўнярок
дачка.
Нібы ад веі.
А шчочкі незнарок
агнём запалымнелі.

Бо ёй
пятнаццаць год.
Сваю вясну ўжо чуе.
...І ў небе самалёт
сусвет
на два
лінуе.



## БАБІНА ЛЕТА

На пагорках гарыць беразак.
Растрывожаны гусі па вёсках.
Так журботна і радасна так
адпраўляць перабытыя вёсны.

Ахіне маладая зара.
Бальшаком да світання блукаю.
Лета бабіна —
                    што за пара! —
ні спакою,
            ні сну
                    я не маю.

Можа, хтось развітаўся са мной —
не віной жа пражытае лета! —
павучынкі плывуць над зямлёй,
нада мной
у крамяным паветры.

І прастора зямная мая,
што ў крыштальную сінь закавана,
да лісцінасчкі
                    пахне уся
баразной,
і слязой,
і туманам.

## КАСЦЁР

Трашчыць і круціцца бяроста,
качае вогненны клубок,
і лёгкім марывам
у прастрань
віецца з іскрамі дымок,
нібы само жыццё
употай
скрозь пальцы
некуды цячэ
і толькі цёплаю гаркотай
на вуснах высмяглых
пячэ.
А ты
на выстылай аселіцы
пад шолах восеньскага дня
ўсё дражніш рыжае цяпельца,
нібы сваволу-кацяня,
і адчуваеш,
як употай
з тым радасным,
жывым цяплом
твае ўсе тканкі,
быццам соты,
дзівосным
                    поўняцца святлом,
і ты ўжо ведаеш,
што трэба,
каб рукі ў шчасці распасцёр —
такі вось дзень,
такое неба,
ды ў суразмоўнікі
касцёр.



Над палямі звіняць
тэлеграфныя гуслі,
а ў навіслай сінечы
замглёных нябёс
падхапілі іх песню
самотныя гусі,
і па нервах прабег
маладзенькі мароз.
У лясах пасвятлелых
палаюць крывава
ацяжэлыя гроны
такою парой.
Ападае лісцё
ў забуялыя травы,
круг зрабіўшы павольны
над галавой.
А вакола — святло
ад зямлі пацяплелай,
нібы з першаю рунню
у майскія дні.
Ды нядоўга чакаць
залюцелую вею,
што баярскія шапкі
надзене на пні.
Так мінаецца ўсё,
як пяшчотнае лета,
і ты сам неўпрыкмет,
перайначаны ўвесь,
адчуваеш журбы
узыходжанне светлае
у душы,
што прыціхла,
як выстылы лес.



За гарадской ускраінай —
і што за клопат ёсць! —
бадзягамі блукаем мы
ля вёсачкі якойсць.

Ідзём мяжой ля ворыва
збуцвелаю травой,
і крык дзяркаты ворана
стаіць над галавой.

А над сасновай грываю,
што будзячы клады,
яго радня сварлівая
гырчыць на ўсе лады.

Прыціхлі хаты стомлена,
і лашчацца здаля
дымок гаркавы з коміна,
святло паміж галля.

Што сніцца нам?
Што мроіцца?
Развага і спакой.
Ды чуеш:
нехта тоіцца,
цікуе за табой.

І ўслед бурчыць:
— Каб з ветахам
дзяцей пакласці спаць,
то нейкі клопат гэтакім
упоцемках блукаць?..

## НОЧ

Зноў над Зямлёй,
працятай ветрам,
у недасяжнасці высокай
плывуць
Туманнасць Андрамеды
і Магеланавы Аблокі.
Мы — дзеці зорнага жыцця.
Наш кожны крок —
па таямніцах.
...Зноў у калысцы забыцця
пазакалыхваюць зарніцы,
і ўсё,
чым жыў,
чым будзеш жыць,
у снах-загадках патанае,
дзе ўсё знікае,
што баліць.
Мо гэта серыя другая,
дзе валадараць
згода, ціш
ды зорнае святло паруе,
якую пахапкам глядзіш,
згубіўшы лінію скразную?



Змрочная ціша — па лесе,
і, навяваючы сон,
нехта сушыць паразвесіў
шэрыя высеўкі дзён.

Чорная птушка якаясь,
ў дзюбе з чырвоным вуглём,
над галавою лятае
пад ацяжэлым галлём.

Быццам бы літасці просіць,
сеячы іскры на гаць,
нечага дзіка галосіць,
пэўна,
за лесам чуваць.

Сеткі рвучы павучыння,
поўныя белай расы,
вусцішна і несупынна
глушыць вятроў галасы.

Так і душа неспатольна,
збіўшы таемную ніць,
гэткім пранізлівым болем
сёння чамусьці баліць.



Пазвоніць аднойчы вясна
празрыстым званком ручаіны.
Дзівіся жыццю:
не пазнаць
у сонечным пуху
вярбіны.
Дзівіся жыццю,
бо вакол
звініць,
і паруе,
і тае.
Пакратай галінку рукой —
пяшчотная слодыч такая!
І як той развеснены шпак
цвірчыць,
не знаходзіць збавення,
жыццём разварушаны так,
гатовы ты стаць на калена,
дзе звоніць гарэзны раўчук,
дзе верба пушыстая стыне,
дзе рвецца да сонца з-пад рук
з пластоў чарназёмных травіна,—
бо ўсё гэта
наша быццё
у формах яго разнастайных,
і ты,
і Зямля,
і Жыццё
адна
найвялікшая
тайна.



Крыніцаю смагу ўталю.
Паслухаю жыта
у полі.
А потым карой акрылю
агеньчык у вогнішчы
кволы.

Ныpцуе са сквару ў раку
чырвонае сонца.
Віецца
і ліжа аддана руку
кудлатым дварнягам
цяпельца.

І дым,
і гаркавы ўспамін
плывуць-адплываюць далёка,
і толькі агеньчык адзін
слязой палыхае
у воку.

Чаму так імчацца гады,
што гэтулькі ўжо за спіною?
...Душа,
рана робішся ты
практычнаю і дзелавою.

Мо лепей у вір — з галавой?
Мо лепш безаглядна ўлюбіцца? —
Хай потым усмешкаю злой
развага сівая
глуміцца!..

## СОРАК

Прыкінь —
                    і нямала пражыта.
Ды боязна —
                    каб недарма!
...Вакола рунеецца жыта.
І далеч —
                    хмурыны няма.

Яшчэ, можа, ляжа пад бурай
нявыспелены ураджай
і марнай аддзячыць натурай
за радасць,
                    за слёзы.
А жаль...

Чаго ты на лад філасофскі
парыпваеш глуха,
                    пяро,
як быццам бы дня адгалоскі
завеяй крутой замяло?

Як быццам бы вусны астылі
і ў травах заблытаўся след
пяшчотнай,
                    любімай,
                              адзінай,
яшчэ непазнанай як след.

«Співаць пра любоў непрыстойна,—
мне кажуць,—
                    пасля сарака».
Чаму ж на душы неспакойна,
і сэрца дрыжыць,
                    і рука?..

## РАЗВІТАЛЬНЫЯ КАСТРЫ

Над Прыпяццю гараць дубы,
і чуеш,
як употай
усё,
чым жыў
і што любіў,
сплывае ўдаль гаркотай.

Шукаю я між позніх траў
твае сляды, каханая.
Гары, касцёр,
не дагарай,
кружыся над палянаю.

Я згадкай светлаю жыву
і вераю сагрэты.
Лісткі агністыя лаўлю,
яны падкажуць —
дзе ты.

Панеслі ўдалеч журавы
мой светлы сум
прасторамі.
На даляглядзе ветравым
твой шлях палае зорамі.

Шукаю я між позніх траў
твае сляды, каханая.
Гары, касцёр,
не дагарай,
кружыся над палянаю.

## СТАРЫ МЛЫН

На ускраіне сяла,
нібы птах пахілы,
млын старэнькі выпрамляў
над вятрамі крылы.

Між крутых
                    надрэчных стром
калаціла лісце,
як між воблачных чаромх
ён ляцеў кудысьці.

І сцяжыначку
                    на млын
травы не хавалі,
бо любоў і крыўду мы
крылам давяралі.

Узнімай жа,
                    узнімай
над сялом,
                    над хатай,
раскруці світальны май
і мяне,
          крылаты.

І лячу я,
               і лячу
праз вятры,
                    аблокі.
...Са слязамі — уваччу
успамін далёкі.

## СЦЕЖКА ЮНАЦТВА

Не шкадуй, калі ласка,
ты, зязюля,
гадоў —
нават верыцца казкам
па дарозе дамоў.

Дай туманнай цішы
заквітнелага вецця,
цёплы снег калышы,
сцежка лепшая ў свеце.
І пад ясень вяртай
да бацькоўскае хаты.
Замятай, замятай
і набыткі, і страты.

Не нажыў я багацця,
але ў сэрцы збярог
гэту сцежку юнацтва
паміж гулкіх дарог.

Зноў на цёплай паляне,
дзе крыніца цячэ,
пацалункам каханай
чысціня апячэ.

Дай туманнай цішы
заквітнелага вецця,
цёплы снег калышы,
сцежка лепшая ў свеце.
І пад ясень вяртай
да бацькоўскае хаты.
Замятай, замятай
і набыткі, і страты.



Над абрывам,
над крутым,
мы ідзём скрозь цемру —
двое —
да раз'юшанай вады
пад уздыхамі прыбою.
Зоры, што прашылі дах
і на чорны схіл упалі,
ажно рэха па гарах,
з грукатам збіваюць хвалі.

А ты плацейка зняла
і шпурнула на каменне,
і цябе ўсю
абвіла
хваля ў мройнае адзенне.
Ветравейнаю парой
нам бы тут яшчэ ўтрымацца,
а не ў цемры штармавой
са стыхіяю змагацца!

Вір падхопіць —
і няма!
Толькі блякнуць
зораў свечкі.
Я ў ваду!..
Крычу...
Дарма!
І, бязбожнік,
я укленчыў:
— Мора!
Злітуйся!
Вярні!..—
голас глух

і сіп
ад плачу.
А стыхія
на кані
выгарцоўвала
гарачым.

З цемры
кіпенны хрыбет
над прыбоем
узлятае
і, знямоглую,
цябе
у абдымкі мне
кідае!





Я разумею:
згуба — страсць душы,
як тая страсць даведзена да згубы.
Марудныя хвілінаў мурашы
пякуць нясцерпна імем тваім губы.

Глухая ноч!
Хто выдумаў цябе?
А можа, ты —
перш, чым ён стане прахам,—
каб у душы чацвертаваў сябе
смяротнік-вязень
доўга перад плахай?

І я надумаў зрушыць шар зямны.
Світаннем акрывавіўшы скрыжалі,
я павярнуў яго,
але тады
мяне наскрозь маланкі пранізалі,
ды вогненны абрынуўся патоп,
ерэтыка нахабнага караючы.
І я упаў.
Па мне прайшоў натоўп,
нікога і нішто не заўважаючы.

Я выжыў.
Я падняўся.
Я нясу —
хіба што ранак жаўруковы
сведка,—
страсаючы і слёзы,
і расу,
свой страшны боль —
палаючую кветку.

— О божа мой!
Якая прыгажосць!
Якая ружа!
Чырванню асвечана...
Напэўна, кветкі на Зямлі
і ёсць
параненыя душы
чалавечыя?..



## НА БЕЛЫМ АРКУШЫ ЗІМЫ

Пасля дажджоў,
як лістапад
заляжа стомлена ў бярлозе,
аднойчы заквітнее сад
ружовым цветам
на марозе.

А скрозь туман
святлом цячэ,
і ты,
уражаны падзеяй,
ідзеш на вуліцу хутчэй
начных прывеціць
чарадзеяў.

І там,
        дзе сонца узняло
агніста-ярую карону,
дрыжыць паветра навакол
загуслым і п'янкім
азонам.

На белым аркушы зімы
з тае іскрыстае
                        натуры
кладуцца дрэвы і дамы
штрыхамі светлымі
                                гравюры.



У настылай пушчанскай глушы
вырастае
у дрогкім марозе
праяўленнем жывое душы
адзінокі вазок на дарозе.

У глушэчы бяроз і асін,
у спляценні злядзелага веццд
гэткім часам, напэўна, адзін
заблудзіўся
у вымерзлым свеце.

Задрамаў незнаёмы яздок.
І чаму ён
пад покрывам ночы?
І адкуль?
І ў які гэта бок
пакаціўся праз лес
патарочай?

І ні крыку вакол,
ні слядоў.
Нават сэрца ў грудзях
апямела.
...Так далёка да новых лістоў.
А ўчарашняе
скрозь пачарнела...



Змрок і журба,
і нічога апроч.
Запалымнелыя дровы
перасякаюць
дрымотную ноч,
дзелячы на дзве паловы,—
тую, за шыбай,
дзе лісцік прымёрз
да чорнага шкла недарэчы,
і гэту,
якая на сценах цяпер
цёплаю барвай трапеча.

Быццам бы нехта
закурыць акно.
Глянеш,
а з цемрадзі саду
па вогненным лісці
бяжыць малако
кіпеннага
снегападу.



Іду ласінай сцежкай
з абрыва да вады.
Страсае ельнік снежкі
з кудлатай барады.

А потым шахне гурбай
цяжэзнаю
смялей.
— Ты што,
рыхтуеш згубу,
яловы дуралей?!.

Успыхне у палонцы
карасік залаты,
як вылузнецца сонца
усмешкай
з барады.

## ЛЯСНЫ ПРЫТУЛАК

З першым водбліскам зары —
сабірай хоць скарбы —
снег на бронзавай кары
іскрамётнай фарбы.

Зоры,
            стылыя з начы,
у вірыну ўпалі:
сіганула пад карчы
стронга,
і у палі
млявай павай
на віры,
калі ноч абрыдла,
парудзелая,
                        з нары
выплывае выдра.

Дрэвы з'інелыя спрэс.
Лапік неба светлы.
Дружным стукам
будзяць лес
дзятлы і паэты.

## СНЕЖНАЯ ПАЭМА

За хмызамі
ля крыніцы,
дзе спыніўся след лася,
лугавіна скрозь іскрыцца,
зрыфмаваная уся.

Спішай крок.
Глядзі навокал.
Не закрэслі незнарок
іерогліфы сарокі,
курапатчын ланцужок.

І заечыя двукоссі,
і шматкроп'і барсука
іскравеюць на марозе
выштальцонасцю радка.

«Рып» ды «рып» —
сляды чытаеш.
Супыніся.
Прабяжы.
...Чарацінка клічнік ставіць
на ўзбалоткавай мяжы.

Як бы снегу не іскрыцца,—
бачны почырк мастака:
алегорыі лісіцы,
ламаны радок ваўка.



Трашчыць мароз,
аж вянуць вушы,
што лісце смяглае
ў сухмень!
Гулякам блудным
нахлабучыў
цяжкую шапку
важны пень.

Лясун скалелы,
ды ў знямозе
ад зайздрасці не лопне ледзь,
убачыўшы,
як на марозе
прыдумалі мы
вусны грэць.



А ў Івянецкай пушчы ўсё зіма,
хоць сакавік
на подступах
бушуе.
А тут яго і подыху няма.
Ніхто нідзе вясны тае не чуе.

Тут раскашуе
вея і мароз
пад ветахам
у сінім адвячорку,
і голле залядзелае
бяроз
пазвоньвае іскрыста на пагорку.

І, мераючы ў цемры далячынь,
над рэчкаю,
каля старой граніцы,
нібы вядзьмак,
збуцвелы крыж тырчыць,
іржавай абцярушаны ігліцай.

Кладуцца рана ўзімку вёскі спаць.
Затуленыя
хвойнікам кудлатым,
пад зорамі
панылыя стаяць,
нібы людзьмі пакінутыя,
хаты.

Ні музыка,
ні смех,
ні галасы
не патрывожаць сну таго зямнога,

хіба,
пагорак будзячы лясны,
зрэдчас
святлом прарэжацца дарога.

Адно ля школы —
месячна з акон,
дзе інтэрнат
для маладых настаўніц.
Забыўшыся на сшыткі і на сон,
яны чытаюць «вершыкі»
да раніцы.

Пастукаў бы хоць нехта
у акно
ці абазваўся б
крокамі імклівымі.
...Іх сэрцы,
быццам птушкі на цяпло,
заходзяцца
трывогаю шчымліваю.

О, гэта ноч
у далечы лясной,
на чысты снег і цішыню багатая!
Душа чужою грэецца вясной,
пакуль свая
сумётамі абнятая.

## РАЗЬБЯР

Апалінарый Фларыянавіч
быў вядомы ў Івянцы
цудадзейным выштукарваннем
на звычайным бервянцы.

Браў палена з-пад паветкі
і даваў душы узлёт.
А на пнях узыдуць кветкі,
пчолы ў дзверы
і — па мёд!

З векавых рудых калодаў
ад натхнёнае рукі
зубы скаляць
у釋 барадах
чарцяняты-блазнюкі.

Што змарнеў,
паніч панылы?
Глянь,
мужык бяду — убок!
Вусы выпрастаў,
што крылы,
рэзні польку —
пойдзе ў скок!

Хто з сявенькай,
хто са зброяй,
з караваем,
з немаўлём.
Кроў і песня.
Радасць з болем.
Чым жылі.
І чым жывём.

Івянецкія мужчыны,
івянецкія жанкі —
быццам лёс усёй Айчыны
праз эпохі,
праз вякі.

А народ —
усё-ткі сіла!
І не бойся гучных слоў.
Як яго тапталі,
білі,
а ён выжыў,
а ён зноў
лашчыў дзетак,
песціў поле,
не панік,
наадварот,
боль зацяўшы,
усё болей
спеліў
талентаў
народ,
што насупер
срэбрастаерам
ледзьве звязвалі канцы.
...Апалінарый Фларыянавіч
незабыўны ў Івянцы.



Пра мёртвых кепска не кажы...
Яго даставілі з палаты,
чужы і сцішаны ляжыць
у акружэнні вінаватым.

А быў вясёлым ён якраз.
Быў таварыскім.
Быў гарачым.
Адно часцей, можа,
чым нас,
яго наведвалі
удачы.
Невыпадковыя,
як лёс
спагадны раптам падвінецца,—
ён крыж будзённы цяжка нёс,
што чорнай працаю завецца.

Ён разбіваўся да крыві.
Ён усміхаўся вінавата,
калі узбуджаныя мы
ішлі
　　у бойку
брат на брата!

І зноў
у стылым,
　　　　　страшным сне —
ажно мароз пульсуе ў венах! —
усмешка вусны ледзь кране
пад лёгкім
　　　　　сонечным праменнем.
І ад марознага агню,
ад той усмешкі вінаватай

адчулі мы упершыню
і кошт жыцця,
і горыч страты:
што мёртвых любім,
а жывых —
радзей адкрыта,
больш употай —
за недахоп,
за поспех іх —
закопваем,
як далакопы!



## ЯБЛЫК

Нарэшце упаў з вышыні,
пераспелы,
азызлы,
счарнелы,
зляцеў пад павевам
крутых,
маладых завірух.
Жартуючы, людзі
цяпер падбіваюць нагамі,
не помнячы нават,
што быў
над галовамі ў іх.

Дзівак-недарэка!
Ты гэтак трымаўся
арбіты,
што нават не трапіў
у кош бурштыновых дароў.
А мог бы цяпер
у калючую, злосную вею
духмяным святлом
улагодзіць
чыюсьці душу.



Няма у свеце лішняга нічога —
хаця куды спаборнічаць з табой! —
адведзена маленькая аблога
былінцы і казюрачцы любой.

Свой час зямны
мы ў рупнасці пічыруем,
і нейкі сэнс хаваецца у тым,
што так гарым, буяем і віруем
пад месяцам і сонцам залатым.

А можа,
        проста місія такая:
за дзень,
за два
або за сотню год —
з'яўляемся,
жывём
і паміраем,
здзяйсняючы жыцця кругазварот.

І ў гэтым свеце,
радасным і жорсткім,
дзе ўсім — прастор
і цесната для двух,
гармоніяй сваёй
і супрацьборствам,
магчыма, мы —
той несупынны рух.

І, пэўна,
у касмічных гэтых ветрах —
не збіць бы той гармоніі хаця б —
да сонца паварочвае планету
вышэйшая механіка жыцця.



Згаслі лотацi свечкі.
Адпалала лісцё.
Над заснежанай рэчкай
Трубіць меддзю трысцё.

Добры дзень...
Добрай ночы...
З Новым годам!

Так знікаюць у пространь
дні,
нібыта у сне!
Год каметаю вострай
небасхіл паласне.

Добры дзень...
Добрай ночы...
З Новым годам!

Ветраў буйныя коні.
Пеніць зарыва кроў.
Усё болей бяссоння.
Усё меней сяброў.

Добры дзень...
Добрай ночы...
З Новым годам!..

## ЕДУЦЬ ГРАМАДЗЯНЕ

З ляскатам
              і звонам,
раскруціўшы ветры,
дымныя вагоны
крышаць кіламетры.

Пад зарою яснай
сон міжгор'яў пудкі
у гаях пагаслых
працінае хуткі.

Едуць:
шэф апальны,
лыжнікі на кросы,
з паралеляў дальніх
шумныя матросы.

Побач —
служка боскі,
ды пенсіянеры
што вазілі з вёскі
ў райсабес паперы.

Пад ружовай плёнкай
шыба —
              што ікона:
корміць немаўлёнка
юная Мадонна.

А ў працягу велічным,
у палях,
міжбор'ямі
свецяцца паселішчы
цёплымі сузор'ямі.

...Праімчыць.
Растане.
Раскалыша ветры...
Едуць грамадзяне
на свае планеты...



## ХОРЦІЦА

Ля плаціны Днепрагэса
між грымотнае слаты
пад шатром асеннім лесу
дрэмле
вестраў залаты.

Там на хвалях б'ецца бакен
ці вяслуюць,
дзе каса,
запарожскія казакі,
дзеці Бульбы Тараса?
Украінцы,
беларусы,
аратаі,
кавалі
уцякалі ад прымусу
і да Хорціцы брылі.

...Ці гукне хто недалёка,
ці падасца проста мне:
стрэльне ядранае слоўка
у бязладнай гамане.

Мо з пары тае
султану —
аж ад смеху скача чуб! —
пішуць бойкае пасланне
казакі,
абсеўшы дуб.

А дзяцюк,
крапак вусаты,
кашавы,
ва ўсіх — як бог

агнявой вадзіцы:
— Маці! —
кажа, гледзячы на рог.—
А хто ты такая?
— Акавіта.
— А з чаго ты?
— З жыта.
— Адкуль ты?
— З неба.
— Куды ідзеш?
— Куды трэба.
— А папера ў цябе е?
— Няма.
— Вось тут табе і турма!..
І пад рогат зухаваты
так канчае дыялог:
перакульвае гарбаты,
агнявы і ёмкі рог.
«Тут і ў самы раз спыніцца! —
хтось падкажа.—
Балазе
б'еш паклон тае вадзіцы,
ад якой пакуты ўсе!»
Ды не трэба лішне моршчыцца,
бо пасведчыць і Дняпро,
што кідалі запарожцы
горкіх п'яніцаў
на дно!..
Лепш спыніся на пагорку,
у кустах пачуўшы крок.
...Украінская гаворка.
Беларускі гаманок...

## НЕАПАЛЬСКІ КІРМАШ

Каго лёс дарогамі
шчодра пацёр,
пісалі пасля ў мемуарах,
што лепей за ўсё
пазнаецца жыццё,
яго каларыт —
па базарах.

Партовы базар —
не старонкі газет
з аглядкай:
«Што скажуць наверсе?»,
а тут —
як ён ёсць! —
грубай сутнасцю
свет
са шчыліны кожнае лезе,
як гэта
у міні-бікіні дзяўчо,
цябе за рукаў
што хапае,
як гэты юнак
з перабітым плячом,
ён роспачна
некага лае.

Паважна шумяць,
шалясцяць
пад крысом
зацёртыя ліры
і боны.
...Стракацяцца сцены
сусветным рыззём,
пібыта сцягамі плямёнаў.

На бірках:
«Атава»,
«Мадрыд»
і «Парыж»,
і агалошваюць прыстань:
— Купляйце надзею!
З Ганконга гашыш!! —
смуглявыя кантрабандысты.

— Прадайце!
— Купіце!
— Прадамся сама! —
лунае крык,
свецячы рэбрамі.—
За міску спагеці!
За шклянку віна!
Або за трынаццаць
сярэбраных!

І гэты
славянскага крою
вусач
табе
аб зямляцтве буркуе.
А можа, ён,
тайнае службы стукач
і зараз цябе правакуе?..

І ў той мітусні,
што ў сусветны патоп,
давераным божага слова
глядзіць на стракаты,
крыклівы натоўп
з талерачак
папа
сурова.

І кружыць,
і глушыць
камерцыі шал,
і раптам
　　　　пякотка
пад сэрца
падкоціць Везувію
вогненны вал —
пажар памідораў і перцу.



## БАНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Не змружыць стомленых павек
да ранку
душнай ноччу мая:
любоўю трызніць чалавек,
якой нясцерпна не хапае.

Не прамінуць бы незнарок.
Яны усё-такі павінны
паміж крутых
зямных дарог
перасячыся,
дзве сцяжыны.
Яны зліюцца,
сцежкі дзве,
у свеце тлумным і бясконцым.
Два сэрцы,
поўныя надзей,—
гарачыя паўшар'і сонца.
І у пякельным ззянні тым,
дзе ад агню пасмягнуць словы,
аднойчы лёс
падорыць ім
шчаслівы парастак вясновы.

І той сямейны сплаў жыцця
каб распазнаць якое пробы,
на віражах крутых быцця
не раз падкіне лёс
калдобы:
то перабор,
то нелады,
то гром пракоціцца апальны.
І сонца іхняе тады
заб'ецца ў шэрані банальнай,

дзе, астываючы,
няўзнак
атрутным чадам захліснецца.
Хто вінаваты?
Дзе і як? —
Тут ЭВМ не разбярэцца.

А ледзьве скончыць шчасце
рэй,
і дэкарацыяй для драмы
пастануць сумна ля дзвярэй
вузлы,
пакункі,
чамаданы.
Усё,
што мелі на дваіх,—
нібы сляпая выпадковасць.
...Маўкліва сын глядзіць на іх,
як недзялімая маёмасць.

Што на вірах,
дзе каламуць,
па крохкай веснавой ільдзіне,—
скразныя трэшчыны ідуць
па сэрцы,
быццам павуцінне.



Яго шукала столькі гадоў!
Ды нешта яе шукаў ён не дужа.
...Глыбее ў паглядзе
смутак удоў,
хаця і не зведала мужа.

Не. Заляцанняў хапала раней.
Але жаніхам —
а яна так не можа! —
выпіць бы шклянку партвейну хутчэй
ды заваліцца б у ложак.

Гэтакім «скорыкам» —
толькі б адно!
А ёй —
каб прыстойна і чыста.
...Усю маладосць
пралюбіла
ў кіно
самаахвярна
артыста.

## ПАД ДАЖДЖОМ

Раскладу касцярок
ля дарогі ў лагчыне адкрытай.
Пад маркотным даждЖом
рассцілаецца дым на мяжу.
І вяртаецца ўсё...
Быццам цені выходзяць з нябыту —
што было і сплыло
і чым болей я
не даражу.

Падыходзяць сябры.
Ціха тупаюць каля цяпельца,
нахіляюцца моўчкі,
не бачачы, што я стаю.
Я забыўся пра іх,
і цяпер вось,
нібыта тапельцы,
цягнуць сінія рукі,
шукаючы ў дыме агню.

Падыходзіць жанчына ў жалобным адзенні
і ціха
на дарогу глядзіць,
ды астылы пагляд —
скрозь мяне.
Недзе бачыў калісь.
Але дзе?
Не згадаю наліха.
Можа, гэта любоў?
Я калісьці калечыў яе.

Яна моўчкі трывала,
хаваючы жах і пакуты,
зберагала пяшчоту,

ды вернасць рабыні ў вачах...
Я даўно разумею:
не вольны быў я,
                                а прыкуты
да трывог невыразных,
што мучылі так па начах.

У адчаі прашу:
Адгукніцеся, добрыя людзі!
Як магу,
                так аддзячу!
І ўсё я аддам,
                        што магу!..
Але холадам мёртвым
знямелыя дыхаюць грудзі,
ды па шчоках вільготных
маркотныя кроплі бягуць.

Так стаю на мяжы
ля дарогі ў лагчыне адкрытай
ды спрабую гасцей захінуць ад дажджу
                                                                ў паліто.
Так стаю над кастром,
цэлым светам, здаецца, забыты.
Апраўдацца спрабую,
ды толькі не чуе ніхто...



Мы наіўныя людзі Зямлі,
безразважныя дзеці планеты.
Нас такія нягоды гнялі,
а мы ўзнёсла складалі санеты!

Між касмічнага ў небе сяйва
і зярнятаў у ворыве posным
час
няўрымслівых нас
надзяляў
аржаным,
неспагадлівым лёсам.

Толькі ўсё,
што вакол,
што ў душы,
непарыўна навек знітавана.
І што марна жывеш —
не кажы.
Не кажы,
што адпушчана мала.

Не кажы,
бо рухомай,
жывой
у нязваных прасцягах Сусвету
будзеш вечна ты
плоццю зямной —
хоць пылінай,
хоць подыхам ветру...

## ГЭТАМУ БУДЗЕ ПРАЦЯГ

Светлая радасць жыцця
кроплямі сонца іскрыцца.
Гэтаму будзе працяг.
Гэта нічым не зацьміцца.

Быццам бы скрозь абалонь
чую,
як мару і дзею
цепліць маленькі агонь
у залюцелую вею.

Гэта не толькі табе —
глянь на прадвеснія краскі! —
коцікі опяць на вярбе,
поўныя сонца і ласкі.

Звонкім вяшчункам жыцця
сочыцца светла жывіца.
...Гэтаму будзе працяг.
Гэта нічым не зацьміцца.

## ЗМЕСТ

**Пашков Г.**

П 22 Люблю, спадзяюся, жыву...: Лірыка.— Мн.: Маст. лит., 1990— 126 с.: іл.

ISBN 5-340-00469-4.

Пашков Г. Люблю, надеюсь, живу...: Лирика.

Імя паэта вядома па кнігах «Кляновік», «Дыстанцыя небяспекі», «Гравюры дарог», «Зямлю слухаю», «Маналог на кастрышчы» і іншых.

Вершам новай кнігі Генадзя Пашкова ўласцівыя актыўная грамадзянскасць, яркая вобразнасць чыстых і звонкіх радкоў, пачуццё жывой прыналежнасці да роднай зямлі, людзей, вострых супярэчнасцей часу.

Трывожны голас паэта напоўнены аптымізмам, верай ў перамогу над злом.

П $\frac{4702120202-034}{М\ 302(03)-90}$ 55—90 ББК 84Бел7

Литературно-художественное издание

**ПАШКОВ Геннадий Петрович**

**ЛЮБЛЮ, НАДЕЮСЬ, ЖИВУ...**

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**ПАШКОЎ Генадзь Пятровіч**

**ЛЮБЛЮ, СПАДЗЯЮСЯ, ЖЫВУ...**

Лірыка

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак К. П. Шаранговіч. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Маслоўская.

ІБ № 3264

Здадзена ў набор 19.07.89. Падп. да друку 07.12.89. АТ 06407. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 4,52. Тыраж 2250 экз. Зак. 2744. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.